# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 5 (1249) ГОД XXV БЕЛАСТОК, 3 ЛЮТАГА 1980 г. ЦАНА 1 зл.



КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

# ВЯРХЛЕС

Калі вы хочаце апынуцца ў дзівоснай краіне лесавікоў — падавайцеся ў гэтае вялікае, бо са 182 гаспадаркамі, сяло на Сакольшчыне. На шашы Беласток—Крынкі ў кіламетры за вёскай Сакалдой, якраз уз'ехаўшы на Копную Гару, паварочваеце налева і, праехаўшы праз вёскі Варонічы, Лазніскі і некалькі прысёлкаў, вы ўжо ў Вярхлесе. Рэдка якая мясцовасць на Беласточчыне мае такую яскравую свядомасць сваёй даўнасці, як гэтае сяло. Ва ўрочышчы Баня пры будове дарогі знойдзена сякера з крэменю, магчыма, з каменнага веку. На выгане каля ручая Здроік ва ўрочышчах Кладкі і Грэнтовы Грудок відаць нейкія таямнічыя пагоркі з лункамі ў сярэдзіне. Знаходзяць каля іх чарапкі ад глінянага посуду. Старэйшаму пакаленню верхлясян явілася тут па начах дзівосная постаць імклівага каня-стаенніка з развеянай грывай і ўзнятымі ўдыбкі капытамі. Калі нехта падаваўся лясным трактам праз лясное балота Лізы ў Супрасль ці Беласток, дык напэўна прыблукваўся да яго спасены чорны баран. Круціўся ён вакол воза ды бляяў, як быццам прасіўся ў рукі. Вядома, чалавек не мог стрываць, каб такое дабро марна ў крэкаці прападала. Вязаў барана ды ўвальваў у палукашкі на воз. Конь хроп пры гэтым, быццам звочыўшы воўчую зграю, і рваў улезлы па восі ў зямлю воз, ажно аглоблі трашчалі. Але такія дзівы няўцям былі чалавеку — ён ужо прыкідваў у галаве, колькі возьме на рынку за такую знаходку. Марна! Як толькі ранкам сярод стромкіх сосен і ялін блішнулі на купалах Супрасльскай царквы залачоныя крыжы, баран саскокваў з вазка і кідаўся ў лес з такім рогатам, што ажно кастрыца з хвояў дажджом сыпалася. Во, якія кепікі з людзей строіў тут калісьці нячысцік! Некалькі дзесяткаў год таму назад па ўсіх вярхлесаўскіх палетках — Грабава Гара, Грынявіччына, Далы, Залессе, Засцянкова, Запашкі, Клябанска Шыя, Літвін Луг, Лыса Гара, Ніўкі, Пагнае, Пакаршынец, Прастаполе, Прыдаткі, Роскаўшчына, а нават на „клінах", што ўрэзваюцца ў пушчу, — Груды, Каўшоўка, Ланка і Сучок — усё лета валэндаліся русалкі. Але яны людзей так не зводзілі ў зман, як, скажам, лясныя дзевы — лоймы. Праўда, явіліся яны толькі мужчынам, што ў лясных нетрах вуголь выпальвалі. Асабліва маладым, ладным і дужым. Даволі такому стомленаму пры вырубе дрэва і ладкаванні яго ў капец да выпальвання прылегчы дзе-небудзь на мяккім імху, як зараз жа з лясной гушчэчы прыходзіла гэтая незвычайнай красы і павабу дзяўчына. Спавівала юнака вэлюмам сваіх шаўкавістых косаў, абсыпала гарачымі пацалункамі, песціла пругкімі, бы лясныя яблычкі, грудзьмі і, распаліўшы мужчыну да кахання... выслізгвала з абдымкаў і знікала ў чашчобе. Такія былі калісьці лясныя дзевы-лоймы! Цяпер, на жаль, і след па іх прастыў у лясных урочышчах — Асовая Яма, Барсуковы Далы, Грынашковы Горы, Каранчлес, Каўшоўкі, Клін, Лесасекі, Паўсполе, Плоскі Бор, Сёмкі, Шанковыя Равы і іншых — нідзе іх няма. Але нават паслухаць пра іх — і то люба! Умелі тутэйшыя людзі валодаць таемнымі сіламі пушчы. Як толькі адбілася ад статку і згубілася ў лясных нетрах карова, гаспадыня замест бегчы ды шукаць яе па лесе, з усяе моцы крычала ў комін: „Красуля, дзе ты падзелася? Зараз жа ідзі дадому!" І красуля выходзіла з лесу на выган...

(Працяг на стар. 4)




Урачыстыя навагоднія сустрэчы беларусаў, пражываючых у Варшаве, сталі ўжо неад'емнай часткай грамадскай дзейнасці Варшаўскага гуртка Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Гэты, **1980 год,** варшаўскія беларусы сустракалі 12 і 13 студзеня. Распачалі свой навагодні баль у суботу познім вечарам, а закончылі яго ў нядзелю ў 6 гадзін раніцы. Была гэта ўжо па чарзе 24 навагодняя сустрэча. А ўсё гэта адбывалася не абы-дзе, а ў прасторных залах **Палаца культуры і навукі,** у самым цэнтры сталіцы нашай краіны. **Віктар Швед,** наш паэт і адначасова інструктар **Галоўнага праўлення БГКТ** на варшаўскі гуртоқ кажа, што ў Варшаве няма іншай, настолькі прасторнай залы, якая змагла б памясціць усіх удзельнікаў гэтых навагодніх сустрэч беларусаў.

— Мы нікога спецыяльна не агітавалі, — гаворыць Віктар Швед, — не заахвочвалі, не давалі аб'яў у газетах, не развешвалі афішаў. Людзі самі прыходзілі ў наш клуб на Сенатарскую 8, прапанавалі сваю дапамогу ў арганізацыі балю і куплялі ўступныя карты для сябе і сваіх знаёмых. Разам сабралася нас 1200 асоб.

Размясціліся яны ў двух прасторных залах на чацвертым паверсе Палаца культуры і навукі. У адной зале — пераважна людзі ўжо, скажам, сярэдняга ўзросту, якім не пад сілу модныя сучасныя танцы, у другой — перавагу мела моладзь з яе *ракэндролямі* і рознымі іншымі *чарлестонамі*.

Аднак тут і там усіх захапляла вонкавая дэкарацыя. Гэтыя залы з вялізнымі мармуровымі калонамі, з бліскучымі крыштальнымі люстрамі самі па сабе ўжо стварылі ўрачысты настрой. На гэты фон **Кастусь Мазурук** паклаў яшчэ чыста славянскія, казачныя элементы. Ён па прафесіі электронік, доктар фізічных навук, але душа ў яго мастацкая. Раней ужо таксама грамадскім чынам размаляваў ён памяшканне беларускага клуба на Сенатарскай 8, а цяпер — прасторныя залы Палаца культуры і навукі запоўніў хутканогімі тройкамі, размаляванымі палотніш-

(Працяг на стар. 4)

КАВАЛЕР ОРДЭНА АДРАДЖЭННЯ ПОЛЬШЧЫ

# ЮРЫЙ НАЛІВАЙКА

З сакратаром гміннага камітэта ПАРП у Гарадку тав. Яўгенам Раманчуком завялі мы размову аб ордэнаносцах, якія яшчэ працуюць і праяўляюць актыўную дзейнасць у сваім асяроддзі. Да аднаго з актыўнейшых сакратар залічыў Юрыя Налівайку і выказаў аб ім шмат добрых слоў. Не паспеў тав. Раманчук шырэй паінфармаваць аб Налівайку, калі зусім неспадзявана ён адкрыў дзверы кабінета. Быццам адчуў, што ён тут якраз патрэбны, што аб ім ідзе гутарка.

— Лёгкі ты, дружок, на ўспамін, — сказаў тав. Раманчук і папрасіў яго сесці разам з намі. Расказаўшы, у чым справа, пакінуў нас у кабінеце і заняўся прыёмам людзей.

Юрый Налівайка ў задуменні сядзеў, падпёршы рукой бараду. Відаць, пагрузіўся ён ва ўспаміны, якія пераносілі яго праз далёкія пасёлкі і гарады, дзе пабываў ён.

— З чаго тут пачаць? — заклапатана адазваўся быццам да сябе. — Усяго было так многа і ўсё для мяне важнае.

— Мо ад пачатку майго бадзяння... — звярнуўся тав. Налівайка да мяне.

— У вайну я жыў у Казахстане са сваёй маці і на два гады старэйшым братам Віктарам. — Юры Налівайка змоўк і спахмурнеў, дабавіў сумна: — З пакойным Віктарам. Загінуў ён у баях з немцамі пад Сталінградам у лістападзе 1942 года. Было яму тады толькі 20 год.



Юрый як рэліквію захоўвае яго маленькую, адзіную салдацкую фатакартачку, з якой нядаўна ў Беластоку зрабіў партрэт брата. На ім застыў малады твар юнака, адзетага ў салдацкі мундзір. Час для яго спыніўся некалькі дзесяткаў гадоў таму назад. А было б яму цяпер 58 гадоў і, каб не скасіла яго варожая куля, ён мог бы жыць, кахаць сваіх дзяцей і жыццё.

У Казахстане Юрый Налівайка працаваў спачатку ў калгасе, пасля ў саўгасе, а затым на чыгунцы. Давялося пабываць там у некаторых гарадах, сярод якіх найбольшае ўражанне на яго зрабілі Караганда і Карталы.

Летам 1942 года польскае войска генерала Андэрса перайшло з СССР у Персію (цяперашні Іран). У жніўні гэтага ж года апынуўся там і Юрый Налівайка са сваёю маці. Там уступіў ён у польскую армію ў 17 полк пяхоты, 5 дывізіі, 2 корпуса. Пачалося нялёгкае жыццё салдата-бадзягі. Падарожжа пачалося па краінах Блізкага Усходу. Давялося быць у Іраку, Ліване, Іярданіі, Егіпце. Усё там было іншае: і зямля, і расліны, і краявіды, і неба, і людзі са сваімі звычаямі.

Набліжаўся час, калі войска генерала Андэрса мела ваяваць з немцамі на тэ-

(Працяг на стар. 2)

## Нейздзясняльная думка

*Дамоў вярнуся*
*на світанні*
*біццё пачую*
*быццам сэрца*
*маці сустрэне*
*цяплом сэрца*

*Дамоў вярнуся*
*на світанні*

**Юрка Баена**

* ✲ *

Не кахай,
ты стары і дурны!
Гэта ж смешна,
гэта ж неразумна —
кажуць разумныя,
разважлівыя людзі —
што за карысць,
якія перспектывы?
Эх, разумнічкі,
прыстойныя мяшчанчыкі,
каханне не там,
дзе карысць ў перспектыве!
Смешна і неразумна
розуму шукаць
у каханні.

**Алесь Батура**

* ✲ *

*Можа*
*і таму*
*так*
*смакуе*
*сваё,*
*што*
*трэба*
*яго*
*грызці*
*зубамі*

**Юрка Трачук**

## ПАД ВОСЕНЬ

Галасам смеласці
восень азвалася.
З коласам спеласці
лета канчалася.

Спелыя ягады
высахлі ў лесе.
Белы туман
павуцінне павесіў.

Пожняй калючаю
нівы пакрыліся.
З кожнаю раніцай
птушкі журыліся.

Ах, цёплае лета,
мой час успамінаў!
Ты вернешся, лета,
ты нас не пакінеш.

**Л. Танкевіч**

## ОСЭНЬ

*Стэлеця над олесом*
*Білы туман,*
*Утюжыт*
*Опавшэ на траву*
*Бабынэ ліыто...*
*Проходыт сонна осэнь*
*І останэ в памэты,*
*Старым образом,*
*Оправляным в спорохнівшы*
*Рамы часу.*
*І мы одходым*
*В свою осэнь,*
*У которуй пэрэміышаны*
*Зэлёна боязнь*
*З глубокою надіёю,*
*Самостойносць і провал.*

* ✲ *

*Проходыт сонна осэнь*
*У прыроді*
*І у жыці,*
*Выпісана спопэлівшым*
*Сэрэбром часу*
*На нашых скронях,*
*Гонім чоловічу судьбу*
*На тупік —*
*На остатню кропку*
*Над людськім існованнём.*

**Іван Кірызюк**


# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ


# Надзея Артымовіч

З ЦЫКЛА:

## МЫ ТАК БЛІЗКА СЯБЕ

раніцай
да цябе
плыве ўжо толькі
маўчанне маё

* ✲ *

ты і я
губім музыку сваіх сноў
хаця
прыходзім адыходзім
так ціха...
адыходзячы
паваротам галавы
не лепім разбітай вясны
старанна змываем сляды
ты і я
блукаючыя промні
самагубнага сонца

* ✲ *

дарую табе затрывожаны след
капялюш поўны сонца
і горад без хмар

глянь у восенькі дзень
сядзь за сталом
хлеб пячэцца ў старамоднай печцы

дык дарую табе назаўсёды
крошку жнiўня
і мазаіку нашых сустрэч
яны — дахам нам
у самотных прыстанях
...так родзіцца каханне...

* ✲ *

позняй восенню
у лістападавых пажарах



да цябе
плывуць мае сонечныя дарогі
твой цень
стаіць над маім сном
і тады
праўдзівее згубленая папараць
апранаеш мяне
у блакітную радасць
у вясну

баюся
калі адлятае начная хвіліна
па якой астаецца
пустое месца

* ✲ *

наша размова
зарысавана лёгка ноччу
агрэта аднавокім месяцам

глядзім
як чорны час бялее
пад тонкімі пальцамі непрысутных

заіржавелі ноты нашых слоў
апранутых у элегантныя касцюмы
і толькі стук пад сэрцам
ёсць колеру жывога...

мы знайшлі непрачытаную кніжку
адвага была запісана на небе
пад рогат жабіны
пад музыку маўчання
мы сеялі
каханне

дрыжачыя словы йшлі ў зямлю
уцякалі прадбачаныя вуліцы

цяпер шукаю логікі ў сваіх марах
позна

мая лістападавая непрысутнасць
ноч

* ✲ *

не знаеш ты
калі прыйшла першая восень
няўмела запрашаючы цябе
а зелень яшчэ варылася ў чарназёме сэрца
не знаеш ты
калі адрантвелі пальцы твае шукаючы малітвы
а побач плылі самагубныя параходы
не знаеш ты
калі над мёртвым домам затрымалася неба
а ў блізкім лесе захварэлі дрэвы

цяпер хочаш знайсці
негатыў таго часу
спознены сон

не знаеш ты
што на папялішчы ружы ніколі не расцвітаюць

**Надзея Артымовіч**

# ПРЫДЗІ

Далёка на небасхіле маланкі бліскалі адна за другой. У іх водблеску былі відаць аграмадныя калоны хмар, бы горы недаступныя. Ледзь чутны гром грукатаў, быццам нехта невідочны скідаў каменні з тых гор, кідаючы іх у прорву бяздонную. Першыя кроплі дажджу, цёплыя, бы слёзы скрыўджанай дзяўчыны, падалі ціха, роўна, вялікія, набрынялыя жалем і смуткам. Чулася, як зямля прагна паглынала іх.

— Як добра, што ты вярнуўся, — сказала яна, сустрэўшы яго на парозе.

У яе вачах была радасць і непакой.

— Хадзі ў хату, сядзь, адпачні, змучыўся ж, вячэру падам, ногі вымыю.

Прынесла возера вады і радугу ў ручніку з цёплай усмешкай. Яе косы, бы вярба, рассыпаліся па загарэлых плячах і, як лён, засароміліся.

Ён уздыхнуў. Кропля дажджу сплыла па яго шчацэ. Пасля другая. Недзе блізка трэснуў гром. Святло пагасла. Падышла да яго і, абняўшы, прытулілася.

— Як бяспечна і добра з табою, — шаптала пяшчотна, баючыся спалохаць гэтае шчасце.

— Я баялася, што навальніца застане цябе ў полі. Мой ты дарагі, каханы.

Узяў яе косы і абцер шчокі. Прытуліў мацней да сябе. У яе грудзях біла сэрца, але ўжо спакайней, роўна, рытмічна, як бы хацела вышаптаць, што свет цудоўны толькі тады, калі цеплыня позірку расплываецца навокал, бы пах мацейкі вечарам. Былі шчаслівыя, бы дзеці.

А за акном? Ноч чорная скрыгатала маланкамі ды плакала раўнівымі слязамі на сваю долю, так як плача дзяўчына па сваім каханым, які, няўдзячны, пакінуў яе, а яна яшчэ верыць і праз слёзы кліча: — Прыйдзі, мой любы! Прыйдзі!

**Уладзіслаў Дваракоўскі**

**БУГ У АГНІ**

# КАРПЮКОВА БАЛАДА

**Ян Карпюк,** цяперашні капітан міліцыі, у 1941 годзе быў васемнаццацігадовым юнаком і ўжо наймаўся да працы пры пабудове надбужных дотаў, якія ў іх вёсцы, у Слохах Аннапольскіх, сяляне называлі звычайна „точкамі“, або „бункрамі“.

— Мы толькі рыхтавалі камень, грузілі жалеза, цэмент і іншыя будаўнічыя матэрыялы, — расказвае ён, — а да „точак“ дапускалі выключна савецкіх салдат. Найперш ставілі высокі маскіровачны плот, найчасцей з зялёнага ядлоўца і хмызняку, затым капалі глыбокую яму, ставілі шалюнак, закладалі жалезнае ўзбраенне і стараліся за адну ноч усё гэта заліць бетонам. Праца ішла без перапынку днём і ноччу. На гэтай рабоце нядрэнна можна было зарабіць. Плацілі нам па 8-12 рублёў у дзень.

— Жылося нам добра, — расказвае Ян Карпюк. — Сям'я ў нас, праўда, была вялікая, бо апрача мяне, бацькі мелі яшчэ двух сыноў і дзве дачкі. Разам са мною працаваў яшчэ пры будове гэтых бункераў мой старэйшы брат, **Ёзік...**

Назваўшы гэтае імя, Ян Карпюк на хвіліну замоўк. Па яго твары маланкава прабеглі ледзь прыкметныя дрыготкі. Сцёр іх далонню і коратка заявіў:

— Яго забілі немцы... — і зноў моўчкі паглядзеў у кубак з чорнай кавай. Магнітафонная стужка круцілася, я чакаў. А ён, замест успамінаў, ціха заспяваў:

*„Мы вспомним, ребята, потери,*
*Про сорок первый год,*
*Как Гитлер к нам стал придираться*
*И нищил невинный народ...“*

— Так, — уздыхнуў ён. — Перажытае тады глыбока ўрэзалася мне ў сэрца. Бо толькі ўявіце сабе: жылі мы, бяды не ведаючы. Маладыя, бадзёрыя, вясёлыя. Пасля працы ішлі ў вясковы клуб, які нам у Слохах адкрыла савецкая ўлада. Сустракаліся з дзяўчатамі, знаёміліся з салдатамі і афіцэрамі Са-

**(Працяг на стар. 6)**

## Толькі на вынас?

У вёсцы Казлы гміны Бельск ёсць святліца, а ў ёй спажывецкі кіёск, які належыць ГСу ў Бельску. У гэтым кіёску купляюць розныя рэчы жыхары вёсак Казлы і Райкі. А ў кіёску — чаго як чаго, але піва не бракуе. І часта можна сустрэць такую карціну, што півошы сядзяць там цэлымі гадзінамі, забыўшы пра ўсё. У акенцы вісіць надпіс: „Піва прадаецца толькі на вынас“. Але як прадаўшчыца, так і пакупнікі не прыймаюць гэтага пад увагу.

ГС у Бельску павінен зацікавіцца тым, каб распараджэнне ўсе выконвалі. Будзе гэта для дабра тых вясковых гаспадынь, якія не дачакаўшыся сваіх мужоў з кіёска, самі бягуць карміць кароў і наводзіць парадкі ў гаспадарцы.

**Сам**

**ЯКІЯ МЫ ЛЮДЗІ**

## РОЗНЫЯ ЛЮДЗІ

Артыкул „Якія мы людзі“ Васіля Петручука зацікавіў мяне і, па-мойму, павінен быць пачаткам шырокай дыскусіі на тэму, якім павінен быць чалавек?

Сумленны, добразычлівы, ветлівы, у кожнай бядзе дапаможа свайму бліжняму, не ласіцца на чужое, верны сваёй жонцы, дзецям, паважае ўсіх, не задаецца.

Гэта галоўныя рысы чалавека.

Але якія мы ў сапраўднасці?

Ёсць пагаворка: „Яблыка ад яблыні далёка не адкоціцца“. І гэта праўда. Найбольш здараецца: як бацькі сумленныя, то і дзеці іх пайшлі следам за імі; а як бацькі сволачы, дык і патомства мала адышло. Хоць бывае і наадварот, але гэта рэдкія выпадкі. Не малую ролю ў паводзінах чалавека адыгрывае школа.

Ёсць людзі, што любяць самі сябе хваліць — гэта пусты чалавек. Бо як людзі пахваляць, о, тады ты нешта варты. А ніхто лепш чалавека не ацэніць, як людзі, што нас акружаюць.

Кажуць: з якой лысінай цяля ўрадзілася, з такой і здохне.

Мы як людзі розныя: розных характараў, абычаяў, схільнасцей, паводзін. Найважнейшае, каб мы былі сумленныя, незайздросныя і каб адзін другога не тапіў у лыжцы вады. А ў нас пераважна адзін другога цярпець не можа. І як тут можа быць шчырае сяброўства? Падумаць толькі.

Я як пісьманосец штодзённа сустракаюся з людзьмі і амаль кожнага, здаецца, навылёт ведаю. У мяне, здаецца, усе добрыя, але як нядаўна ў Тафілаўцах пераплаціў за малако, не знайшоўся той добры чалавек, не вярнуў іх назад. Хоць кажуць, што ў кожнага белыя зубы, папаўся на такога, што за „шчасце“ прыняў чужыя грошы, як „проста з неба падарунак“. Праўда, я не збяднеў. Але і ён не ўзбагацеў. Ёсць і добрыя людзі: і там, каб і цэлую сумку з грашыма пакінуў — не загінуць. Што гэта за людзі? Гэта патомкі ад веку сумленных. І ў гэтых людзей адчуваеш, як у сябе дома.

Каго трэба асцерагацца: п'яніц-алкаголікаў (ён табе грошай не верне), кар'ерыстаў, службістаў, людзей напышлівых. Калі яны твае начальнікі, то бяда. Ёсць людзі, як кажуць, кроў высce і раны не зробіць — асцерагайцеся іх!

**М. Панфілюк**

**З маей званіцы**

## СВЕЖАНЬКАЕ

Калі прыходзіць свята, мясныя магазіны асаджвае натоўп: з выпханымі жыватамі, з малымі дзецьмі на руках (сваімі і пазычанымі), з інвалідскімі кастылямі.

На мяса і каўбасы я паклаў крыжык, ведаў, што не дастану. А жонка ўжо і разводам пагражае, калі буду яе карміць толькі маслам, сырам і малочным супам. Я спрабаваў жонку пераканаць, што мы не выглядаем горш за тых, што мяса з мясам ядуць. Але дзе там, хто пераканае жанчыну, як ёй хочацца добрай каўбасы якраз тады, калі яе цяжка дастаць. Ну, думаю, навошта мне з жонкай сварыцца, тым больш, што яна мае рацыю. І пайшоў у чаргу па сала.

Людзі стаяць, як добрыя знаёмыя, і гавораць прыцішана (але так, каб іншыя чулі), што ў чарзе заўсёды тыя самыя твары. Адзін толькі чужы ўлез — ківаюць барадамі ў мой бок. У мяне нарастае злосць, што пашкадаваў жонку. Аднак у чарзе стаяць моўчкі сумна і падключаюся да суседкі спераду:

— Ці вы засведчыце, што я за вамі стаю? Я б хацеў выйсці з чаргі і пазваніць у важнай справе.

— Я не ведаю, як пасля будзе, — кажа суседка. — Вас могуць не пусціць, бо тут многія выйшлі па важных прычынах, і кожны хоча дастаць мяса.

— Я не па мяса, я хачу дастаць сала.

— Сала? Дык яно ж без чаргі.

Пачаў я прабірацца да прылаўка. Абедзве чаргі, звычайная і „інвалідская“, заварушыліся. Пачуліся галасы крытыкі. Я аднак пхаўся. Вось і першая лінія змагарнага фронту. Ціхім голасам (бо сорамна пад свята купляць адно сала) пытаю кіраўнічку, ці прадасць мне паўкілаграма. Кіраўнічка моўчкі важыць камусьці лапатку. Пасля звяртаецца да наступнага. А я, сканфужаны, стаю ля прылаўка і баюся глянуць у бок: бо чую, як на мяне глядзяць пастаянныя аматары свініны. Паўтараю пытанне, але ўжо зусім няўдачна: прахрыпеў мой голас, бы пачаткуючы жабрак. Гэта магло кіраўнічку толькі рассмяшыць. Я выразна поўзаў перад гэтай жанчынай, якая магла прымяніць супраць мяне свае права і аставіць на свята без сала. Аднак нехта з „інвалідскай“ чаргі пашкадаваў мяне і кажа:

— Крыкні галасней, бо твайго мармытання ніхто не чуе.

Я паўтарыў пытанне яшчэ раз. Кіраўнічка ўзняла на мяне вочы і кажа (але так кажа, каб усе чулі):

— Чаго вы крычыце; я чатырнаццаць гадзін на нагах і не магу вас усіх абслужыць!

Божа ж ты мой, Божа! Як яна гэтак сказала, абедзве чаргі зараўлі.

Па-заячы драпануў я з магазіна, схапіўшы сала, як чорт грэшную душу.

* * * * * * * * *

Не паверыце, выходжу з дому, бачу ля сметніка падручны возік, а на ім скрынка, у якой ляжыць сала вялікімі кавалкамі і каўбаса пруткамі. Пытаю гаспадара возіка, куды ён гэтае дабро дастаўляе. А той рагоча:

— Пане, я кожны год выбіраю са сметніка столькі гэтага дабра, што вам і не сніцца. І сам не ведаю, чаму людзі гэта ўсё выкідаюць: у халадзільніку магло б паляжаць. О, гэта каўбаса нават колеру не змяніла. А сала выкідаюць нават салёнае. Ім давай усё свежанькае, сённяшняе...

**Васіль Петручук**

**ПАЛОСКА ДЗЯДЗЬКІ КВАСА**

## У. Дваракоўскаму

**(ПРАЦЯГ)**

— Ці можна піць неба, як лякарства?

— Можна. Неба з'яўляецца атмасферай. Лекары кіруюць пацыентаў у мясціны з чыстым паветрам. „Нап'юцца“ яго і ачуньваюць.

— Ці можна кагось выставіць да ветру? Ці можна хапаць вецер?

— Памятаю з дзіцячых гадоў аднаго хлапчука, які меў звычай абжырацца і ў час урокаў псаваць паветра. То яго настаўнік, схапіўшы за вушы, выстаўляў на панадворак да ветру. А хапаць вецер? Захацеўшы, нахапаешся, аж колькі ў баках заколюць. Добра аб гэтым ведаюць бегуны.

— Ці можна трымаць сонца, як футбольны мяч?

— Звычайным смяротнікам — не, але Яшы Буршу, падобна, удаўся гэты небяспечны эксперымент. Гэта ж пацвярджаецца і табою, бо пішаш: „Напэўна можна, гэта метафара“.

Гэтай метафарай ты збіў мяне з панталыку! Ой, як шкодзіць мне мая неадукаванасць. Хоць забі, не ведаю, што за штуковіна гэта метафара. З чым яе ядуць?

Падумаўшы, бы індык перад сконам, дайшоў я да вываду, што няйначай гэта вогнетрывалыя рукавіцы. Пры дапамозе іх Бурш і пазуроў не спёк. Значыць, метафара — рэч небяспечная. Трывожыцца (яшчэ і як!) усё перадавое чалавецтва, каб прадукцыю смертаносных вада-мукле-бакле-атама-бомб звесці да мінімума. І дапільнуе, каб элементы з азмрочаным розумам не знішчылі ў сваім шаленстве найпрыгажэйшую ў сусветах планету — Зямлю. Канчына свету можа даканацца з непрадбачанага боку: невядомага, палымянага дзецюка — паэціка сучаснай плыні „белавежцаў“. Захоча на ўзор Бурша пазабаўляцца сонейкам, бы футбольным мячыкам, і схавае мілую цацку ў кішэню, і з уцехі засне багатырскім сном, і праспіць з гультайскага звычаю 24 гадзіны. Гэта і будуць ракавыя гадзіны ўсяго жывога на нашай улюбёнай планеце. Пазбавіўшыся прыліву сонечнага цяпла і жыццедайнай энергіі, ператворыцца яна ў замарожанае, мёртвае нябеснае цела.

Чым чорт не жартуе! Пакуль жывы, трэба з адказам паспяшацца. З нянавісцю знішчажаеце мяне за мой крытычны агляд вершаў, прызнаных нашым Парнасам паэтаў **і паэтэс, чаму** і не здзіўляюся. Аб іх пяялі хвалебныя песні высокаадукаванцы. Даказвалі вартасці, якіх не знайсці ва ўсеагульнай беларускай паэзіі, усхвалялі іх непакаляную чысціню, высакапарнасць, глыбіню розуму.

Непрадбачаны і нечаканы з'явіўся мой агляд. Чапіў найбольш услаўленых тварцоў, погляды і тварэнні якіх не падвяргаюцца крытыцы. У. Дваракоўскі абураны. У гарачцы забыўся ён, што я не літаратар, а неадукаваны селянін. Ён гнеўна патрабуе: калі ўзяўся за крытыку, выкажы вартасці літаратурных твораў (паспрабуй выкажы ў бязвартасным творы вартасць!) ці недахопы (о, яшчэ мала! Ад выказаных, бы на гарачай патэльні, уюся), падай маладым людзям руку (о, не, не падвядзеш! Баюся сораму. Мяне, дзякаваць Богу, ніхто не абувае, сваімі рукамі нацягваю на ногі брудныя боты, якімі, згодна з тваімі дацінкамі, улез у чысціню вашай паэзіі), крытыка мусіць быць вострая (ужо па-мойму), але не варожая (вось табе і маеш!), павінна быць яна сяброўская, сардэчна-цёплая.

Вось дзе запэрка, закавырка, заданне не пад сілу мне, невуку. То ж, каб змайстраваць крытыку „вострую“ і адначасова „сяброўска-сардэчна-цёплую“, трэба зубы з'есці на літаратуры, трэба не абы-якога мастака слова. Не на мой зуб (адзін яшчэ тырчыць у роце) гэта, саколіку.

Дакладней расталкую ў наступны раз.

**Дзядзька Квас**

зграбных постацях цяперашніх дамоў і выразных аздобах на іх відаць, што тутэйшыя дойліды з залатымі рукамі. Гэта з Вярхлеса сталяры, калёснікі, бондары і іншыя рамеснікі славіліся найлепшымі па ўсёй ваколіцы. Яшчэ і цяпер тутэйшыя майстры патрапяць зрабіць ладныя колы, ступы, сані, сплясці з ліповага лыка лапаць і падшыць яго маладым дубам. А ў старых каморах тут можна яшчэ ўбачыць „лотак“ — спецыяльны посуд на збожжа. „Лотак“ рабілі з парахнявага („усітаватага“) сасновага камля з сырой абалонню. Адрэзвалі з яго кавалак да 2 сажняў, выпальвалі парахню, чысцілі, прыбівалі з з абодвух бакоў „шчыткі“, пасярэдзіне калоды выдоўбвалі „акенца“, ставілі ў каморы. У адзін „лотак“ уваходзіла 30-40 пудоў збожжа. Былі тут таксама спраўныя кавалі, бо трэба ж было рабіць сякеры, свідры, скаблі і іншы інструмент да працы з дрэвам.

Да самых старых тутэйшых сялянскіх родаў належаць: Амбражэйчык, Аношка, Гіба, Гораш, Дзмітрук, Дубянецкі, Лінкевіч, Малахвей, Місевіч, Мулькевіч, Пуль, Савонь, Стасевіч, Супронік, Танкевіч, Філановіч. У сяло ўвесь час прыбывала многа новых людзей, у той жа час выміралі або зводзіліся старыя роды (напрыклад: Жук, Рапейка і інш).

У міжваенны час у Вярхлесе дзейнічала шэраг прагрэсіўных арганізацый: Камуністычная партыя Заходняй Беларусі, БСР Грамада, ТБШ. Быў надта моцны людовы рух, у ім прымалі, між іншым, удзел: В. Карней, Ю. Ладоўскі, А. Трацяк, А. Філановіч, Я. Яцэвіч і іншыя. Верхлясяне актыўна ўдзельнічалі ў славутай трохмесячнай забастоўцы лясных рабочых Беласточчыны ў гадах 1933-34. У выніку ў вядомым „працэсе 29“, што адбываўся ўлетку 1934 г. у акруговым судзе ў Беластоку, верхлясяне П. Амбражэйчык, А. Аношка, А. Дзмітрук былі засуджаны на год турмы, а А. Амбражэйчык, П. Малахвей — на паўгода, яшчэ некалькі былі пакараны адміністрацыйнымі спагнаннямі.

Гітлераўцы крывава расправіліся з былымі ўдзельнікамі прагрэсіўнага руху і савецкімі актывістамі: А. Дзмітруком, А. Каранецкім, А. Супронікам і іншымі. Вярхлес унёс свой немалы ўклад у барацьбу з фашызмам. У верасնёўскай кампаніі 1939 г. загінулі на фронце У. Аношка, А. Кішук, У. Лінкевіч і некалькі іншых. У Савецкай Арміі служылі на розных франтах і загінулі М. Супронік, А. Філановіч і некалькі іншых, адваяваліся і вярнуліся Я. Абухоўскі, А. Казмяровіч, А. Тадуль. Верхлясяне ўспамагалі партызанскія атрады, што базавалі ў навакольных лясах, між іншым, ва ўрочышчы Дворыска каля рэчкі Сакалды.

Сёння Вярхлес — гэта сяло з высокім узроўнем жыцця. Тут знаходзіцца васьмігадовая школа, асяродак здароўя, аптэчны пункт, бібліятэка, клуб, пошта і шэраг іншых установаў, добрая аўтобусная сувязь з Саколкай і Беластокам. Многа моладзі закончыла тэхнікумы і іншыя прафесіянальныя школы, ёсць таксама абсальвенты вышэйшых школаў: У. Аніськевіч, С. Пятроўскі, Л. Рэдзька, М. Філановіч, К. Чарэмха і іншыя. Тут людзі шануюць працу ў сяле, клапоцяцца пра высокія ўраджаі і добрую гадоўлю. Спецыялізацыйныя пасведчанні маюць: Ю. Бучынскі — у гадоўлі свіней, М. Лінкевіч і Ч. Філановіч — малочнага быдла. Хоць і не маюць пасведчанняў, але вядуць гаспадаркі на належным узроўні М. Дубянецкі, А. Трацяк, Ю. Філановіч. А ўзначальвае гэтае працавітае і спакойнае сяло надта ж разважлівы чалавек і самаахвярны грамадскі дзеяч Юзэф Бучынскі. Ён ужо 22 гады солтысам у Вярхлесе і многае, што мае гэтае сяло, заслуга яго намаганняў і клопатаў.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара

 

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Сніцца мне, што я выходжу замуж. Стаю быццам у сябе ў хаце, быццам у царкве і хтосьці дае мне кальцо. Майму партнёру дае таксама, але трохі іншае, але я яго не бачу, ён у мяне за мглой. Аднак я ўбачыла, што я ў хустцы і нагавіцах і падумала, што трэба пераапрануцца. Я надзела белую сукенку сяброўкі, вэлюм зрабіла з фіранкі, глянула на ногі, а з-пад сукенкі выглядаюць мае чорныя боты. Спачатку я хацела пераабуцца, але ўчула, што прыбліжаецца голас хрышчонай і сваячкі з нашага сяла, і хутчэй пабегла да маладога.

Цяпер я вучуся ў сярэдняй школе, і маёй сяброўцы з-за парты таксама прысніўся сон пра мяне.

Сніцца ёй, што быццам я ў белай сукенцы і вэлюме знаходжуся ў біялагічным класе, і настаўнік па хіміі хоча са мной ажаніцца. Потым прыходзіць настаўнік па гімнастыцы, які таксама хоча жаніцца. Яны, узяўшы мяне за рукі, цягаюць то ў адзін, то ў другі бок. Яны пачынаюць мяне біць так моцна, аднак кроў не ідзе. Баюся, што гэта непрыемныя сны.

Ірэна

Ірэна! Нехта да цябе павінен прыехаць, з кім ты пасварышся. Адным словам, нейкае падарожжа прынясе табе непрыемнасці.

**Астрон**

## Куток практычных ведаў

### РАСОЛЬНІК З РЫБНЫМІ ФРЫКАДЭЛЬКАМІ

Марскую рыбу ачысціць, парэзаць на кавалкі і зварыць у навары з касцей і гародніны. Выняць з рыбы косці і зняць скуру. Кіслыя агуркі абабраць, нарэзаць і дадаць у суп разам з падсмажанай цыбуляй. Фрыкадэлькі найлепш рабіць з іншай марской рыбы. Рыбу размарожваем, прапускаем праз мясарубку, дадаем яечка, падсмажаную цыбулю, соль і перац і дакладна вымешваем. Робім шарыкі велічынёю арэха і варым. У кожную порцыю супу кладзем каля 50 г фрыкадэлек і 50 г варанай рыбы. Запраўляем смятанай і дадаем нарэзанай зеляніны.

### ПЯЧУРЫЦЫ, ФАРШЫРАВАНЫЯ САРДЫНАМІ

Рыбу памыць і пасаліць, яна павінна крыху паляжаць у солі, каб добра прасалілася. Мачаць у муку, падсмажваць і на некалькі мінут паставіць у гарачую духоўку. Выняць з сардын косці, пасля чаго прапусціць рыбу праз мясарубку, дадаць яечкі, соль і перац. Дакладна вымяшаць фарш, дадаючы дробна нарэзаныя карэньчыкі пячурыц, падсмажаныя перад гэтым на тлушчы. Капелюшы пячурыц напоўніць фаршам, мачаць у яйцо і цёртую булку (толькі з боку фаршу). Смажыць у вялікай колькасці тлушчу. На выстаўную вячэру можна падаць па дзве пячурыцы на адным лістку салаты, дадаючы да гэтага кавалкі лімона, фрыткі і салаты.

### СТЭК З МАРСКОЙ РЫБЫ

Філе размарозіць, зняць скурку. Асобныя кавалкі крыху разбіць і рабіць круглыя порцыі таўшчынёю каля 1 см, пасыпаць соллю і перцам. Памачаць у муку і смажыць на добра разагрэтым тлушчы.

Абабраць цыбулю, нарэзаць скрылёчкамі, падсмажыць на тлушчы і стушыць яе. На падсмажаны стэк палажыць цыбулю і падаваць з фрыткамі ці пюрэ і рознымі салатамі.

**Гаспадыня**

## ... ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ: В. хоча перадаць гаспадарку сыну за пенсію. Аднак ён мае яшчэ другога сына, які працуе ў ГСе, і ён хацеў бы перадаць сядзібу гэтаму другому сыну. Ці закон прадбачыць гэткую магчымасць?

АДКАЗ: Закон аб пенсіях і іншых належнасцях для сялян і іх сямей прадбачыць, што ў выпадку перадачы гаспадаркі дзяржаве ўласнік можа затрымаць ва ўласнасць будынкі з жывым і мёртвым інвентарам. Мае ён таксама права бясплатна карыстацца з дзялянкі да 0,3 га. Зямля гэта лічыцца дзяржаўнай уласнасцю, а карыстальніку будынкаў прыслугоўвае права сервітуту. Прыслугоўвае яму права прадаць будынкі, або іх падарыць, а ў выпадку яго смерці будынкі пераходзяць ва ўласнасць яго наследнікаў. Аднак, калі б ён прадаваў або хацеў памяняцца будынкамі з іншай асобай, дзяржаве прыслугоўвае права першынства, г.зн. дзяржава мела б права куплі будынкаў за цану, роўную ацэнцы, якая абавязвае пры страхоўцы.

Інакш гэта справа ўрэгулявана пры перадачы гаспадаркі сыну за пенсію. Селянін мае ў гэткім выпадку права бясплатна карыстацца з дзялянкі да 0,3 га і з будынкаў у размеры, неабходным для патрэб яго і яго сям'і. Аднак будынкі ў гэтым выпадку пераходзяць ва ўласнасць сына, і селянін не мае права імі распараджацца. Закон не дазваляе перадаваць гаспадарку двум сынам. Гэта было б магчыма толькі ў выпадку, калі б абое мелі свае гаспадаркі, якія маглі б быць пабольшаны дзякуючы падзелу гаспадаркі бацькі.




Дарагое Сэрцайка, мне сорамна пісаць да цябе за парадай. Але бяда ў тым, што я не малады, а пакахаў на дзесяць гадоў малодшую. Сем гадоў мы знаёмыя. Два гады таму назад мелі пажаніцца. Не выйшла — Валя пакахала Янку. Я кахаў Валю. Бацька на мяне лаяўся, што так цвёрда трымаюся Валі. Гаварыў, каб забыў яе і ажаніўся з другой. Але гэта не проста. Я Валі забыць не мог. У чэрвені памёр мой бацька, у мяне жалоба. Стала сумна — адзін дома. Не цешыць мяне ні работа, ні грошы, якіх зарабляю нямала.

Суседка мяне пазнаёміла таксама з Валяй. Я думаў, што клопат скончыцца. Я ажанюся. А тут вярнулася мая першая каханая. Яна перапрашала, плакала і многа дрэннага сказала аб Янку. А я баяўся, што страчу Валю, з якой вось-вось пазнаёміўся. А першай не верыў і думаў, што яна вернецца да свайго Янкі, хоць ён і многа дрэннага ёй зрабіў. І адышла. Першая да Янкі, а другая Валя пакінула мяне, бо даведалася, што я тую Валю кахаю. А я з той першай толькі два разы сустрэўся. Цяпер, бадай, ужо я астануся адзін, праўда, Сэрцайка?

Сталы чытач „Нівы"
з Беластока

Сталы чытач, не ўбівайся! Ты пэўна да Валяў шчасця не маеш, але ж разглянься, колькі Крысяў, Марысяў, ды іншых кругом. А колькі іх так, як і ты, сумуе ды баіцца, што астануцца ў старых дзеўках? Дзяўчатам, вядома, цяжэй замуж выйсці. Але хлопцу ажаніцца? Абы ахвота. Не адна, другая, то трэцяя знойдзецца. А калі так ужо табе сапраўды цяжка, дык можа мы паможам. Падай тады свой адрас (толькі да ведама Сэрцайка), колькі гадоў табе, чым займаешся, і, думаю, нашыя самотныя прыгажуні напішуць да нас, каб пазнаёміць іх з табой. Мы хуценька адашлем іх пісьмы на твой адрас.

**Сэрцайка.**



## ЖНІЎНАЯ




*Ой, даўно, даўно ў матулі была —*
*а ўжэ тая дарожэнька травой зарасла,*
*а ўжэ тая дарожэнька травой зарасла.*
*А як я схачу — траву патапчу,*
*и да свае мамуленькі ў гасціну прыду,*
*а да свае мамуленькі ў гасціну прыду.*
*Ой, іду, іду, ідучы, драмлю,*
*палажу я галованьку на зялёну мураваньку*
*хай я падасплю,*
*палажу я галованьку на зялёну мураваньку,*
*хай я падасплю.*
*Маминька ідзе — ні будзіць міне:*
*— Мае дзіця мілюсенька, пашло замуж млодзюсенька,*
*ніхай падасніць,*
*мае дзіця мілюсенька, пашло замуж млодзюсенька,*
*ніхай падасніць.*
*Свякруха ляціць — аж зямля стучыць:*
*— Уставай, уставай, заваліна, нашто хату заваліла,*
*уставай рабіць,*
*уставай, уставай, заваліна, нашто хату заваліла,*
*уставай рабіць.*

Ад Яніны Радуха, 1923 года нараджэння, вёска Бянёўцы гм. Новы Двор, запісаў 18 ліпеня 1979 года Мікалай Гайдук, мелодыю расшыфравала Людміла Панько.

## Этнографічнае акенца



*Солтыс Ю. Бучынскі з Вярхлесу з рэзгінямі для пераносу пашы жывёле з клуні ў хлеў.*

*Фота М. Гайдука.*

(Працяг са стар. 5)

# КАРПЮКОВА БАЛАДА

вецкай Арміі, якія ў нас жылі тады на кватэрах, або прыходзілі на вясковыя гульні зляснога ваеннага гарадка. Кожную суботу, як правіла, мы наладжвалі танцы. Прасілі свайго скрыпача, або прыходзіў з гармонікам нейкі баец і... давай! Аж шыбы ў вокнах звінелі ад розных „полек", „рускіх" і „вальсаў". Дзяўчаты заводзілі задзёрныя частушкі, а мы ім адказвалі. І так аж да позняй ночы, аж да стомы... Толькі ад вясны 1941 года ў людскіх паводзінах нешта перамянілася, наглядалася нейкая трывога. Мы ведалі, што між Савецкім Саюзам і тадышняй Германіяй існуе пакт аб ненападзенні. Навошта тады, думалася мне, рыюць гэтыя глыбокія жалезабетонныя бункеры? Ведаў я аднаго камандзіра пагранічнай заставы з Турны Малой. Ён прыходзіў да нас у вясковы клуб і часта наладжваў гутаркі для сялян. На жаль, прозвішча яго я забыў. Затое яшчэ сёння памятаю, што гэты афіцэр любіў паўтараць:

*„С немцом сколько не дружи, а камень з кармане держи".*

Грузілі тады мы камень на гэтыя „точкі" і ўсё часцей азіраліся за Буг. Быў чэрвень 1941 года. Дні стаялі сонечныя, сухія, дык пыл узвіваўся стаўбом аж пад неба і над лесам цэлымі хмарамі вісеў, а ноччу па хвалях рэчкі разносіўся адтуль грукат бронетанкавых рухавікоў. *„Не беспокойтесь!* — паўтаралі знаёмыя афіцэры. — *Германец не смеет".* *„А хто яго ведае?* — гаварылі нашы мужыкі. — *Можа і не адважыцца, а можа і адважыцца",* — і паціху рыхтавалі сухары. А мы, маладыя, спявалі: *„Если завтра война, если завтра в поход..."*

14 чэрвеня 1941 года газета „Праўда" змясціла афіцыйнае паведамленне Тэлеграфічнага агенцтва Савецкага Саюза аб савецка-германскіх дзяржаўных суадносінах, у якім было сказана, што *„...слухи о намерении Германии сорвать пакт и предпринять нападение на СССР лишены всякой почвы..."* Тады, у палавіне чэрвеня, яно прытупіла пільнасць прыгранічных групіровак Чырвонай Арміі. Яны ведалі, што на заходнім беразе Буга вермахт праводзіць буйную канцэнтрацыю свайго войска. Генерал **Л. М. Сандалаў,** тадышні начальнік штаба 4 арміі, якая мела абараняць прыгранічную зону на адрэзку ад Брэста аж за Драгічын, піша, што ваенны штаб акругі ўжо ў пачатку чэрвеня атрымаў даволі дакладныя звесткі аб канцэнтрацыі гітлераўцаў над Бугам. Вядома было, што насупраць 4 арміі, якой камандаваў генерал-маёр **А. А. Карабкоў,** стаяць за Бугам 40 нямецкіх дывізій, з якіх 15 пяхотных, 5 танкавых, 2 матарызаваныя і 2 кавалерыйскія дывізіі рыхтуюцца да атакі на брэсцкім напрамку. **Усё гэта вядома было ўжо 5 чэрвеня 1941 года,** аднак праз некалькі дзён генерал А. А. Карабкоў пасля пабыўкі ў акруговым камандаванні заявіў сваім падначаленым, адказным супрацоўнікам, што Ваенны савет акругі, а таксама і Галоўнае камандаванне Чырвонай Арміі *„...считает, что Германия вряд ли осмелится нарушить договор о ненападении...",* ды яшчэ папярэдзіў, каб часці чацвертай арміі сваімі паводзінамі не далі падстаў да правакацый, якія маглі б ускладніць міжнароднае становішча...

— *Москва лучше знает,* — паўтаралі маладыя афіцэры і з трывогай азіраліся за Буг.

У Маскве ведалі, што Савецкаму Саюзу лепш будзе, калі сутычка з Германіяй адцягнецца яшчэ хаця на год, каб паспець перазброіць уласную армію, каб закончыць пабудову прыгранічных умацаваных раёнаў... Толькі што стрымае воўка, калі ён галодны?

*„Он двадцать второго июня*
*Набросил советам войну*
*И в три часа спокойной ночи*
*Нарушил у нас тишину..."*

— прадоўжыў сваю песню Ян Карпюк. Нешта прымушала яго, каб перажытае перадаць людзям у песні. Словы рускія перапляталіся з мясцовай беларускай гаворкай і зваротка папаўняла зваротку. За каровамі на пасбішчы, за працай у полі, а нават і ў сне складаў ён словы, як сапраўдны будаўнік складае сваю хату. Без гармоніка і фартэпіяна прабаваў на ўласны голас гэтую песню, у якой чуліся водгукі тых харавых напеваў, якія на Буг прынеслі савецкія людзі. І так узнікла гэтая Карпюковая балада, даўжэзная, амаль бясконцая, якая ўвабрала ў сябе народнае разуменне вялікіх гістарычных падзей, якая адлюстравала трагедыю перажытага аўтарам і яго сям'ёй ды аднавяскоўцамі.

**Віктар Рудчык**



 

## КРЫК МОДЫ

*Шосты дзень у хаце крык*
*З вечара і з ранку,*
*Маці толькі глык ды глык*
*З лыжкі валяр'янку.*

*Што прычынай можа быць*
*Гэтага здарэння?*
*Ды сыночку дагадзіць*
*Не змаглі з адзеннем.*

*На двары зіма, вятры*
*Гойсаюць над хатай.*
*Сваім продкам*
*школьнік-сын*
*Вынес ультыматум:*

*Купяць хай яму кажух,*
*Калі ёсць сумленне,*
*Для хлапчыны паліто —*
*Зараз не адзенне.*

*Маці ўспомніла: ў яе*
*Цётка ёсць старая,*
*Мо яна там на сяле*
*Кажушок трымае?*

*Угаворвалі бацькі*
*Цэлы дзень старую,*
*А яна ім: „Галубкі!*
*Хіба я шкадую?*

*Я ж у іх выходжу ў хлеў,*
*Чысціні там мала,*
*Вось свіння лычом крысо*
*Усё зашмальцавала.*

*Моль праела ўсю спіну,*
*Як валяўся ў хаце,*
*Латку мае не адну,*
*Сорам аддаваць мне.*

*Ды шкада вас, вы ж*
*свае...“*
*А бацькі мяркуюць:*
*„Занясём у атэльэ,*
*Там падрамантуюць“.*

*Дома сын скакаў пад*
*столь:*
*„Што тут мыць, што*
*клеіць?*
*Заўтра ў клуб у ім пайду*
*Там усе памлеюць!“*

*І пайшоў сабе фарсіць*
*У такім адзенні.*
*Усе людзі на яго*
*Здзіўлена глядзелі:*

*„Тут работы ў нас не брак,*
*Усяго хапае.*
*Дык адкуль такі жабрак*
*Вуліцай блукае?“*

*Тлумачэнне можна даць*
*Пра неадпаведнасць:*
*Не на грошы, а, відаць,*
*Ён на розум бедны.*

**Алена Руцкая**



**Сучасная казка**

### ДЗЕ БЫЛО, ТАМ БЫЛО...

Дзе было, там было: жылі сабе хлопец і дзяўчына... Хлопец быў як хлопец, а дзяўчына — рэдкая прыгажуня! Залацістыя валасы, смарагдавыя вочы і рубінавыя вусны.

Дзяўчына была такая прыгожая, што калі хто яе бачыў — нямеў, уражаны. Гэткія прыгажуні існуюць хіба толькі ў казках.

Дзяўчына кахала хлопца, але хлопец увесь час вагаўся.

— Гэта цудоўна, што яна ў мяне закахалася, — разважаў ён, — але раптам недзе на свеце жыве яшчэ прыгажэйшая дзяўчына з валасамі яшчэ больш залацістымі, вачамі яшчэ больш смарагдавымі і вуснамі яшчэ больш прывабнымі? Пабадзяюся я па свеце і сам жа пераканаюся ва ўсім.

Абуў жалезныя боты, узяў з сабой дзевяць мяшкоў хлеба і накіраваўся ў падарожжа. Прайшоў горы і даліны, пераплыў рэкі і моры, а калі знасіў жалезныя боты і з'еў увесь хлеб, вярнуўся да сваёй прыгажуні, упаў перад ёй на калені і сказаў:

— Горы і даліны я прайшоў, рэкі і моры пераплыў, але такой прыгажуні, як ты, нідзе не знайшоў!

— Але я знайшла сабе другога, — адказала дзяўчына.

**Васіль Цонеў**






### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Мама, той малады мастак сказаў, што для напісання майго партрэта патрэбна будзе недзе каля дваццаці сеансаў! — прызналася дачка.

— А ты запытай у таго мастака, колькі яму хопіць сеансаў, калі я буду хадзіць з табою?!

✲

Нарэшце вы прыйшлі на работу своечасова, Сміт.

— Так, сэр, я набыў папугая.

— Папугая? Я ж раіў вам купіць будзільнік.

— Будзільнік не мог разбудзіць мяне, сэр. Цяпер я стаўлю яго побач з клеткай. Ён будзіць папугая, а тое, што гаворыць у гэты момант птушка, можа разбудзіць каго хочаш.

✲

— Пан капітан, — прыставала да капітана асабліва надакучлівая пасажырка, — а нашто на палубе мачта?

— Бачыце, калі ў нас скончыцца вугаль, мы зможам скарыстаць яе ў якасці шаста, каб адштурхоўвацца.

### ФОТАМАЙСТАР

Адна задрыпанка прыйшла сфатаграфавацца.

— Зрабіце, калі ласка, каб хораша выйшла! — просіць яна ў майстра.

— Не хвалюйцеся: зраблю так, што самі сябе не пазнаеце!..





*Без слоў*



**На пытанне, якая прафесія, адказвала: „Замужняя“.**

### ДАЙЦЕ ЗАЛАТОЎКАМІ

Атрымліваючы зарплату, Кастусь кажа:

— Дайце мне, калі ласка, заплату аднымі залатоўкамі.

— А гэта ж навошта? — здзівіўся касір.

— Э-э-э, — хітра працягнуў Кастусь. — Вось я прыходжу дадому, аддаю грошы жонцы, пакуль яна палічыць па залатоўцы, то я ўжо за парогам...

### „ГУМАННЫ“ ПАЛЯЎНІЧЫ

— Ці бывае вам шкада забітых звяроў?

— Вельмі шкада, калі іх забіваю не я, а хтосьці іншы.

### ШЧАСЛІВЫЯ ДЗЕЦІ

З кіно выйшаў глядач. Падышоў да афішы толькі што прагледжанага фільма і чытае: „Дзеці да 16 гадоў на гэты фільм не дапускаюцца“.

— Якія шчаслівыя дзеці! — уздыхнуў глядач і пайшоў дадому.

### СУР'ЁЗНЫ ХЛОПЕЦ

— А гэта хлопец сур'ёзны? — спытала маці ў дачкі.

— Вядома. Мы знаёмы ўжо два гады, а яшчэ ні разу не ўсміхнуліся адзін аднаму.

### 5 = 2

Маня расказвае сяброўцы:

— Уяўляеш сабе, я столькі нацярпелася ад Сцяпана за апошнія пяць гадоў, што састарылася мінімум на два гады!

### БОСЫ ВОЎК

— Спі, а то прыбяжыць воўк і забярэ цябе, — палохае маленькага сына бацька.

— Не прыбяжыць, — пярэчыць сын. — На двары холадна, а ён жа босы.

**З „Весніка Задрыпоніі“**

### ЗАБАРОНЕНЫ ПРЫЁМ

Прыняўшы забаронены правіламі допінг, лёгкаатлет Сігуновіч скочыў у вышыню і так дагэтуль не вярнуўся на зямлю. Цікава, што калі ён нават вернецца, яго скачок не будзе залічаны.

### ПЫТАННЕ ЗАДРЫППІСАРА

Ці трэба звяртацца да лекара пры галавакружэнні ад поспехаў?

**ГУМАР З БАРАДОЮ**

### НАПІСАЛІ

Прасіць мужык пісара, каб ліст напісаў да ягонага сына; пісар і пытае:

— Ну, што пісаць?

— Пішыце, што мы жывы і здаровы.

— Ну ўжо напісаў; болей што?

— Больш нічога, ён хітры — сам здагадаецца.



*— Ало, цырк? Я заклінальнік вужой...*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

## BALLADA O MARII MAGDALENIE

Z repertuaru zespołu „Happy End"

**Słowa: Magdalena Mikulin**
**Muzyka: Zbigniew Nowak**

Zdarzyła się zwyczajna miłość (gdzie to było?)...
Nie w Paryżu, Alabamie, San Francisco...
On kochał ją, ot, i wszystko!
Historia znana i stara, tak jak świat.

Mario, o Mario!
O, Mario Magdaleno,
jesteś moim niebem,
jesteś moją ziemią!
Mario, o Mario,
ty zawsze bądź nadzieją,
której tak na co dzień,
zawsze bardzo brak...

Zdarzyło się zwyczajne „żegnaj" (jak to było?)...
Porzuciła, odjechała. Cóż, tak wyszło...
On został sam, ot, i wszystko!
Historia znana i stara, tak jak świat.
Mario, o Mario...
A potem był zwyczajny powrót (gdzie to było?)...
Nie w Paryżu, Alabamie, San Francisco...
Znów kochał ją, ot, i wszystko!
Historia znana i stara, tak jak świat.
Mario, o Mario...
Z historii tej, pamiętaj, miła (to pamiętaj!),
za daleko nie odjeżdżaj, gdy go porzucisz,
bo zdarzy się, zechcesz wrócić,
a wtedy właśnie na bilet braknie ci.
Mario, o Mario...



## Курёзы

### БІЗНЕС... З ПАДСКОКАМ

Амерыканскі канструктар-аматар Андрэс Рохла, адкалоў такую штуковіну, што проста смех і грэх. Ён прапанаваў у вытворчасць нешта накшталт маленькага аднаместнага дырыжабля, які, на яго думку, паслужыць незаменным памочнікам для адзінокага падарожніка, каб пераадолець, скажам, бяскрайнія прасторы пустыні Сахары. Гэты міні-дырыжабль, як і вялікі сапраўдны дырыжабль, мае балон, напоўнены геліем, які ў шэсць разоў лягчэй за паветра. За балон мацуецца на вяроўках спецыяльнае сядзенне для чалавека, да якога ён надзейна падвязваецца, каб незнарок не выпасці. Але своеасаблівы міні-дырыжабль Андрэса не лятае. Дзякуючы таму, што балон, імкнучыся ўверх, добрую палову цяжару цела чалавека забірае на сябе, той, моцна адштурхнуўшыся нагамі, зможа падскокваць, як, скажам, на Месяцы, дзе прыцягненне прыкладна ў шэсць разоў меншае, чым на Зямлі, і такім чынам пралятаць уперад на адлегласць 40-50 метраў. Словам, чалавек, прыдбаўшы такі апарат, зможа пераадольваць сыпучыя пяскі пустыні з падскокам, як тая бльха.

Праўда, над нейкай прыцягальнай назвай для сваёй арыгінальнай канструкцыі Андрэс Рохла не дужа ламаў галаву. Назваў элементарна проста: Падскокваючы балон. Можа, таму аматары вандроўніцтва даволі скептычна аднесліся да гэтага незвычайнага вынаходніцтва. Ніводная фірма не пагадзілася ўзяць у вытворчасць гэткую навінку.



**У даўнія часы адзін прарок прадракаў некалькі падзей, сёння ў кожнай падзеі — сотні прарокаў.**